28 красавіка 1999 г. серада

# НАВІНЫ

№45 (576) кошт свабодны



стар.2

ЛукаШродэрацыя

# Гвардзейцы свабоды

## Невядомыя беларускія патрыёты спрабуюць свае сілы

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Небывалая па сваім размаху акцыя адбылася ў Гродна. Чарнобыльскае шэсце, якое праходзіла 25 красавіка, скончылася жудаснай бойкай.

Падзеі разгортваліся наступным чынам. Прыкладна ў 9 гадзінаў вечара ў Старым Гродне каля 50 маладых беларускіх патрыётаў, апранутых у камуфляж і меўшых на берэтах цэшкі з «Пагоняй», пачалі шэсце з паходнямі, якое, хаця і было несанкцыяванае, праходзіла ціха і без правапарушэнняў. Не паспелі дэманстранты прайсці і 100 метраў, як да іх пад'ехалі некалькі УАЗікаў з міліцыянтамі, якія без папярэджанняў паспрабавалі зрабіць напад на калону, але, атрымаўшы адпор, пачакалі прыбыцця падраздзяленняў АМАПа, і разам, узяўшы калону ў акружэнне, распачалі жудасную бойку, пры гэтым нават не спрабуючы кагосьці затрымаць. Зразумеўшы, што нічога добрага ім «не свеціць», хлопцы ўтварылі кола і паходнямі спрабавалі бараніцца ад звар'яцелых ахоўнікаў правапарадку. Тады міліцыянты ўжылі свой УАЗ, якім проста пратаранілі «жывое кола», і пасля кінуліся дабіваць значна саступаючыя па колькасці сілы дэманстрантаў. Білі ўжо ляжачых на зямлі ў непрытомнасці хлопцаў — па 5—6 чалавек, нагамі і гумавымі дубінкамі. Каб зламаць хлопцаў, якія абараняліся, амапаўцы ўжылі газ.



Крыху пазней да месца сечы пад'ехалі машыны хуткай дапамогі, якія забіралі траўмаваных, прычым, як удзельнікаў акцыі, так і міліцыянтаў, аднаму з якіх зламалі сківіцу, а некаторым рэбры. Адзін з пацярпелых маладых беларускіх патрыётаў патрапіў у рэанімацыю хуткай дапамогі, яшчэ аднаму зламалі руку, у многіх на целе маюцца значныя цялесныя пашкоджанні. Напрыканцы бойкі міліцыянты ўсё ж затрымалі 16 чалавек.

У панядзелак прайшлі суды над дзевяццю ўдзельнікамі акцыі. Усе яны былі асуджаныя да розных тэрмінаў адміністратыўнага арышту, ад 2 да 4-х сутак. Лёс астатніх затрыманых пакуль невядомы, але існуе верагоднасць, што супраць іх будуць узбуджаныя крымінальныя справы. ■

## Гарачая лінія

### Лукашэнка будзе героем 20 хвілінаў

28 красавіка, падчас візіту А.Лукашэнкі ў Маскву, беларускі лідэр возьме ўдзел у праграме расійскага тэлеканала НТВ «Герой дня».

*Аддзел інфармацыі*

### Прыехалі інспектары з Еўрасаюза

У Мінск прыбыла дэлегацыя Еўрапейскага Саюза, у якую ўваходзяць прадстаўнікі Германіі, Аўстрыі і Фінляндыі, кіраўнікі рэгіянальных упраўленняў ЕС. Па звестках з іншых крыніцаў, госці з Еўрасаюза збіраюцца ўдакладніць сітуацыю ў Беларусі ў сувязі з працяглым канстытуцыйным крызісам і прыбліжэннем 20 ліпеня, калі заканчваюцца прэзідэнцкія паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі. Учора дэлегацыя правяла перамовы з міністрам замежных справаў Уралам Латыпавым. Сёння візіцёры сустрэнуцца ў нямецкай амбасадзе з прадстаўнікамі Вярхоўнага Савета, адзінага легітымнага парламента, Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў і кіраўнікамі чатырох вядучых партыяў — БНФ, ПКБ і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).

*Алесь ДАШЧЫНСКІ*

# Адна Саюзная дзяржава на дваіх?

## Беларускі прэзідэнт спяшаецца здаць суверэнітэт да 20 ліпеня

**Віка ТУРАВА**

Праект дамовы аб стварэнні адзінай беларуска-рускай дзяржавы абмяркоўваюць сёння ў Крамлі прэзідэнты дзвюх краінаў. Беларускі бок распрацаваў уласны варыянт дакумента, у якім прадугледжваецца стварэнне пасады кіраўніка саюзнай дзяржавы, фармаванне ўрада і парламента.

Гэты праект носіць «радыкальны ў плане інтэграцыі характар».

Крыніцы сцвярджаюць, што ў дакуменце ідзе гаворка аб «сапраўды адзінай дзяржаве з адзінай сістэмай улады і органаў кіравання».

Расійскі бок зусім інакш уяўляе сабе Саюз братніх дзяржаваў. 26 красавіка на нарадзе ў Савеце бяспекі РФ міністр па справах СНД Расіі Барыс Пастухоў заявіў, што саюзная дзяржава будзе мець канфедэратыўны тып. Праект узгодненай дамовы павінен быць распрацаваны да 1 чэрвеня. Як заявіў Пастухоў, калі праект дамовы будзе падтрыманы кіраўніцтвам дзвюх краінаў, то ён будзе вынесены на ўсенароднае абмеркаванне. Пастухоў падкрэсліў, што робіцца наступны крок ад стварэння Саюза Расіі і Беларусі да Саюзнай дзяржавы. Верагодней за ўсё, сказаў ён, гэта будзе дзяржава канфедэратыўнага тыпу, але пры гэтым будуць поўнасцю захаваныя дзяржаўныя інтарэсы абедзвюх краінаў і будуць выконвацца міжнародныя абавязацельствы.

Беларусь ужо мае вопыт усенароднай падтрымкі любой, нават самай неардынарнай ідэі кіраўніцтва краіны. У Расіі справы пойдуць больш складана: Федэрацыя павінна ўлічваць інтарэсы сваіх суб'ектаў. Татарстан і Інгушэція ўжо выказвалі недаўменне, чаму дачыненні Масквы і Мінска павінны адрозніваціа ад дачыненняў Расіі з Казанню і Назранню. Але гэта праблемы Крамля, лічаць у беларускім МЗСе. І Расія павінна вырашаць іх самастойна.

Пакуль няма яшчэ інфармацыі пра тое, колькі рытарычных пытанняў зададуць беларусам на мяркуемым рэферэндуме. Аднак можна чакаць, што беларускі прэзідэнт не ўпусціць магчымасці ў чарговы раз скарыстаць падтрымку сваіх грамадзянаў, якія, выказаўшыся «за» аб'яднанне з Расіяй, лёгка могуць адобрыць і чарговае падаўжэнне тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі.

Яшчэ больш незразумела, якім чынам да Беларусі і Расіі будзе далучацца Югаславія, якая не мае ні агульных межаў, ні адзінай мытнай прасторы з «саюзам дзвюх». Ельцын, які прапануе не спяшацца, і Лукашэнка, які абяцаў Мілошавічу братнюю падтрымку ў бліжэйшы час, павінны адказаць на пытанні – што рабіць з міжнародным эмбарга Югаславіі і ваеннымі дзеяннямі на яе тэрыторыі, — перад тым як раскрыць абдымкі сербскаму брату. Зрэшты, падаецца, што адміністратары двух прэзідэнтаў знайшлі неблагое выйсце з гэтай сітуацыі: стварыць камісію для вывучэння сітуацыі. Тады традыцыйны саюз стане перспектывай далёкай будучыні: нашыя бюракраты хутка працаваць не ўмеюць. ■

## НАДВОР'Е





29 красавіка па **Мінскай**, **Брэсцкай** і **Гродзенскай** абласцях воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы, вецер паўночна-заходні, 6—11 м/сек. Тэмпература ноччу 6—11 градусаў цяпла. Па **Магілёўскай** і **Віцебскай** абласцях надвор'е воблачнае з праясненнямі. Месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 6—11 градусаў. Па **Гомельскай** вобласці воблачнае з праясненнямі надвор'е, па большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы, вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 6—11 градусаў цяпла.

# Палітэмігрант супраць палітвязня





**Адбыліся радыёдэбаты паміж кандыдатам у прэзідэнты Зянонам Пазьняком і даверанымі асобамі Міхаіла Чыгіра, які зараз знаходзіцца за кратамі.**

**Зянон Пазьняк і Юлія Чыгір, а таксама намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Кароль адказвалі на пытанні беларусаў, зададзеныя па тэлефоне, факсе альбо пошце. Размова прагучала ў эфіры беларускай службы радыё «Свабода».**

**Некаторыя адказы нам падаліся цікавымі, таму мы вырашылі прадставіць вашай увазе фрагменты з перадвыбарчых дэбатаў.**

***Глядзіце старонку 3.***

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**405 000**

## СЕРАДА з Аляксандрам ДУБРАВІНЫМ



## Нячалавечаская дружба

Апошнім часам беларусу настойліва напамінаюць, што ў яго ёсць не толькі «вялікі расійскі», але і «ваяўнічы сербскі брат». Калі табе назаляюць з нейкімі даўно забытымі сваякамі, дык мусіць будзе новы клопат. Так яно і атрымалася. Забіты, абкрадзены і падмануты ўладай, даведзены да галоты «рынačным сацыялізмам», атручаны прапагандай, радыяцыяй ды «інтэграцыяй» сярэднестатыстычны беларус павінен да таго ж займаць сваю галаву яшчэ і праблемамі сербаў, якія яны самі сабе арганізавалі. Трэба ім даваць зброю, ваенных спецыялістаў, гуманітарную дапамогу, трэба ўшчуваць НАТО і выступаць супраць заходніх краінаў у ААН. Трэба будзе потым, пасля налётаў авіяцыі, дапамагаць ім адбудоўваць гаспадарку.

Добра. Хай сабе. Але ж не прывыкаць. Старых людзей, ветэранаў працы і вайны, інвалідаў, чарнобыльцаў будзем гнаць у падслепаватых драўляных хацінах і «клапоўніках», а Бялград, калі што якое, адбудуем, як ляльку. Як адбудавалі ў свой час БАМ, КамАЗ, Сургут і Нечарназем'е. «Сацыялізм прадалжаецца».

Але хачу ў цябе запытаць, чытач: ці займалі калі-небудзь сербаў праблемы беларусаў? Ці дужа клапаціліся яны, напрыклад, ў 1986 годзе, калі ляснуў Чарнобыль? Дзе былі тыя «браты», калі не хапала лекаў, чыстага харчавання і аднаразовых шпрыцоў? Калі трэба было перасяляць цэлыя раёны, будаваць жыллё? Магчыма, гэта яны вывозілі нашых дзяцей на аздараўленне да мора, пастаўлялі медыцынскае абсталяванне на мільёны долараў, дапамагалі шпіталям, клінікам, дзіцячым цэнтрам, праводзілі спецыяльную падрыхтоўку медперсаналу, семінары па праблемах радыяцыйнай медыцыны, бясплатна рабілі складаныя аперацыі?

Здаецца, не. Я, напрыклад, не чуў і не бачыў. Затое ведаю, што ўсё гэта рабілі і робяць да гэтага часу для нас і нашых дзяцей краіны Захаду, «праклятыя агрэсары», амаль што ўсе члены НАТО. І ў першую чаргу ЗША, краіна, на якую зараз адчайна кідаецца наша і расійская прапаганда. Кусаем руку, якая нас ратуе?

А ці ведаеш ты, чытач, што эканоміка Югаславіі амаль напалавіну пабудаваная за кошт заходніх крэдытаў? Больш за ўсё амерыканскіх. А крэдыты (на лепшых умовах) ішлі ў краіну таму, што Бялград трымаў дыстанцыю ад Савецкага Саюза і краінаў Варшаўскага Дагавору. Не прызнаваў іх за сваякоў. Югаславія па ўзроўні жыцця апярэджвала нас тады гадоў на дваццаць. Тады яны глядзелі на нас, бедных «братоў», пагардліва, пасмейваліся з нашага «сацыялізму», кпілі з нашай беднасці.

І вось прыспічыла... Успомнілі.

Маючы такіх славянскіх «сваякоў», як Расія і Сербія, наша краіна ад іх ніякай практычнай карысці не мае. Адны клопаты. Вось і сёння вынікі гэтай «нечалавечай» дружбы спажывае адзін Лукашэнка: Сербія і Расія сталі лепшымі сябрамі нашага самаробнага дыктатара, падтрымліваюць яго, абараняюць ад наступлення дэмакратыі. Таму і будучае наша – не ў абдымках крывадушных «братоў», а ў кампаніі нармальных еўрапейскіх краінаў, без «вялікіх» і «малых» сваякоў.

## Сацыял-дэмакраты атрымалі дазвол

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

БСДП (НГ) і БКДП атрымалі дазвол ад Мінгарвыканкама на правядзенне 1 траўня дэманстрацыі ад парку імя Янкі Купалы (будынак Дзяржцырка) да плошчы Незалежнасці. Пачатак акцыі а 10-ай гадзіне. ■

## Америка требует освободить Чигиря

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Заместитель государственного секретаря США Строуб Тэлбот призвал освободить кандидата в президенты Беларуси Михаила Чигиря и других политических заключенных.

Это заявление было сделано во время встречи Строуба Тэлбота с экс-вице-министром иностранных дел Беларуси Андреем Санниковым в Вашингтоне. Кроме того, С.Тэлбот подчеркнул незаконность лукашенковского референдума 1996 г., а также констатировал отсутствие «демократического процесса в Беларуси», наличие «конституционного и политического тупика» и призвал белорусские власти пойти на диалог с оппозицией. ■

## Цытата нумара

***Способность и желание действовать быстро и эффективно для достижения мира на Балканах продемонстрировал пока только Александр Лукашенко.***

*Нина ШЕЛДЫШЕВА*
*«Рэспубліка», 27 красавіка 1999г.*

## Лукашэнка пакрыўдзіўся на Кучму

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Аляксандр Лукашэнка асудзіў дзеянні прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы, а таксама кіраўнікоў Грузіі і Азербайджана, якія ўдзельнічаюць у саміце, прысвечаным 50-годдзю NATO. Падчас сустрэчы з кіраўніком камуністычнай фракцыі Вярхоўнай рады Украіны Пятром Сіманенкам Лукашэнка заявіў: «Сам факт прысутнасці Кучмы на гэтым саміце гаворыць шмат пра што. І якія б там заявы ні рабіліся, я вам павінен сказаць, што нават насуперак жаданню і расійскага кіраўніцтва, і пярэчанням з нашага боку былыя нашы туды паехалі». Лукашэнка асудзіў нядаўні візіт спецпасланніка Ельцына Віктара Чарнамырдзіна ў Кіеў, Баку і Тбілісі, дзе, на яго думку, абмяркоўвалася не праблема вайны на Балканах, а «ўдзел Кучмы і іншых у саміце NATO». ■

## «Мистер Л., не бойся выборов!»

**Аддзел інфармацыі**

Под таким девизом по инициативе и при участии работников брюссельского офиса Хартии'97 22 апреля в Брюсселе прошел пикет протеста у дверей посольства Беларуси в Бельгии. В акции также приняли участие президент фонда IFIAS Герд Грейне, политические эмигранты и представители белорусской диаспоры в Бельгии.

Участники пикета потребовали проведения назначенных Верховным Советом на 16 мая президентских выборов, открытия в посольстве избирательного участка, а также немедленного освобождения узника совести Михаила Чигиря. ■

## БНФ незадаволены

**Аляксей ШМЯЛЁЎ**

Лявон Баршчэўскі выступіў з крытыкай дзейнасці В.Ганчара. Па яго словах, прадстаўнікі кандыдата ў прэзідэнты З.Пазьняка выказваюць заклапочанасць з нагоды малой актыўнасці ЦВК, што можа прывесці да зрыву выбараў. Калі ЦВК не спраўляецца з сваімі абавязкамі, то ВС мусіць вырашаць пытанне аб замене кіраўніцтва ЦВК. ■

## Этнічная «катастрофа» ў Беларусі

**Язэп СІНІЦКІ**

Каардынацыйны камітэт «Гродзенская ініцыятыва», які аб'ядноўвае прадстаўнікоў 32 палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў вобласці, выступіў з заявай у абарону польскамоўнага школьніцтва.

На думку аўтараў гэтага дакумента, беларускія ўлады вядуць мэтанакіраваны і паслядоўны наступ не толькі на адраджэнне беларускай мовы, але і на мовы нацыянальных меншасцяў. У прыватнасці, мясцовыя ўлады пачалі ліквідацыю створаных раней польскамоўных класаў, не даюць Саюзу палякаў дазволу пабудаваць польскую школу ў Навагрудку і г.д.

Гродзенскія палякі актыўна пратэставалі супраць парушэння ўладамі іх нацыянальных правоў і правялі шэраг несанкцыяваных пікетаў каля сядзібы Саюза палякаў у Гродне. За арганізацыю гэтых акцыяў лідэр беларускіх палякаў Тадэвуш Гавін быў нядаўна аштрафаваны судом на 115 мільёнаў рублёў.

Прадстаўнікі «Гродзенскай ініцыятывы» расцэньваюць падобныя дзеянні мясцовых уладаў як акт дыскрымінацыі грамадзянаў па этнічнай прыкмеце, які вядзе да распальвання варожасці і супрацьстаяння ў грамадстве. Аўтары заявы заклікаюць улады Гродзеншчыны прыняць цывілізаваныя меры, каб зняць узнікшае напружанне, станоўча вырашаць пытанне польскамоўнага школьніцтва і перагледзець рашэнне суда ў адносінах да Гавіна як дыскрымінацыйнае і незаконнае. ■

# Чые інтарэсы адстойвае мінская група АБСЕ

**Адам РОЎДА**

**Кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч нядаўна пабываў з візітам у ФРГ. Адметна, што Нямеччына стала першай заходнееўрапейскай краінай, якая запрасіла да сябе ў госці аднаго з бліжэйшых паплечнікаў Лукашэнкі пасля «драздоўскага» скандалу. І гэта зусім невыпадкова. Наадварот, заканамерна. Больш таго, візіт Мясніковіча ў Германію з'яўляецца своеасаблівым ключом для разгадкі незвычайных палітычных метамарфозаў, што адбыліся апошнім часам у адносінах паміж рэжымам Лукашэнкі і краінамі Еўрапейскага Саюза, а таксама мінскай кансультатыўна-наглядальнай групай АБСЕ.**
**Але аб усім спачатку.**





### Метамарфоза першая: вяртанне паслоў

Нагадаем, што напачатку гэтага года паслы краінаў ЕС, якіх Лукашэнка нахабна выгнаў у чэрвені мінулага года з рэзідэнцыяў у Драздах, вярнуліся ў Беларусь. Вяртанне было настолькі ганебным для паслоў, што аналітыкі да гэтага часу не маглі ўцяміць: навошта цывілізаванай Еўропе было так прыніжацца перад дробным дыктатарам. Беларуская афіцыйная прапаганда прыпісала гэтую перамогу рэжыму над заходнееўрапейскімі краінамі знешнепалітычнаму ведамству, якое напярэдадні вяртання паслоў узначаліў прэзідэнцкі памочнік Урал Латыпаў. Насамрэч, заслугі Урала Рамдракавіча былі моцна перабольшаныя. Адолець прынцыповых паслоў рэжыму Лукашэнкі дапамагло новае, сацыял-дэмакратычнае кіраўніцтва Германіі на чале з канцлерам Герхардам Шродэрам. Менавіта нямецкія сацыял-дэмакраты ўгаварылі астатніх хаўруснікаў па ЕС пайсці на міравую з Лукашэнкам.

Што, уласна кажучы, таксама не дзіўна. Бо той самы Шродэр, амаль год таму назад, напярэдадні парламенцкіх выбараў у ФРГ, не пагрэбаваў сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнкам. Хоць тады беларускага прэзідэнта ўжо добра ведалі і не запрашалі ў госці ні ў адзін прыстойны еўрапейскі дом. Шродэр запрасіў. Яму была патрэбна падтрымка некаторых нямецкіх прамысловых магнатаў. А Лукашэнка якраз паабяцаў пусціць на Мінскі аўтазавод нямецкі канцэрн MAN. Словам, абодва палітыкі знайшлі ўзаемны інтарэс.

Але ж на гэтым іх «каханне» не скончылася. Пасля прыходу да ўлады восенню мінулага года раман нямецкіх сацыял-дэмакратаў з беларускім лідэрам разгарэўся з новай сілай. Навошта канцлеру Шродэру спатрэбілася гэтая кампраметуючая яго ў вачах цывілізаванай Еўропы сувязь, дакладна невядома. Магчыма, канцлера зноў папрасілі аказаць паслугу якія-небудзь прамысловыя магнаты. Хоць на няўдалым прыкладзе супрацоўніцтва з МАЗам немцы, здаецца, павінны былі ўжо зразумець, што эканамічныя адносіны з беларускім рэжымам наўрад ці будуць плённымі.

А магчыма, у нямецкіх сацыял-дэмакратаў проста абудзілася генная памяць. Бо нешта падобнае на цяперашні флірт з Лукашэнкам адбывалася ў сямідзесятых гадах паміж сацыял-дэмакратычным кіраўніцтвам ФРГ і камуністычнымі лідэрамі СССР. Менавіта нямецкія сацыял-дэмакраты на чале з Вілі Брандтам былі ініцыятарамі новай «остпалітык». Тагачасныя «гульні» з камуністычным рэжымам СССР вяліся нямецкімі сацыял-дэмакратамі нібыта дзеля «разрадкі напружанасці» ў Еўропе. На самой справе, як сведчаць архіўныя дакументы, якія шырока цытуе ў сваёй знакамітай кнізе «Маскоўскі працэс» вядомы дысідэнт Уладзімір Букоўскі, каханне нямецкіх сацыял-дэмакратаў з савецкім рэжымам шчодра аплачвалася праз каналы КДБ. Наогул, сам прыход да ўлады нямецкіх сацыял-дэмакратаў у сямідзесятыя гады, як сведчаць архівы КДБ СССР, наўрад ці адбыўся б без дапамогі савецкіх сяброў. Згадзіцеся, ёсць пэўныя аналогіі з сустрэчай напярэдадні парламенцкіх выбараў у Германіі Шродэра і Лукашэнкі.

### Метамарфоза другая: АБСЕ можа прызнаць Лукашэнку легітымным прэзідэнтам і пасля 20 ліпеня

Тут, на жаль, таксама ёсць трывожныя гістарычныя аналогіі.

Згаданы ўжо раман паміж кіраўніцтвам СССР і нямецкімі сацыял-дэмакратамі ўзнік літаральна праз некалькі гадоў пасля жорсткага падаўлення савецкімі танкамі паўстання ў Чэхаславакіі. Я ўжо не кажу пра шматлікія факты парушэння правоў чалавека ў самім Савецкім Саюзе і краінах сацыялістычнага лагера.

Тым не менш нямецкія сацыял-дэмакраты пайшлі на кантакт з Саветамі, заплюшчыўшы вочы на дыктатарскія паводзіны камуністаў. І менавіта афіцыйныя стасункі тагачаснага нямецкага кіраўніцтва з савецкімі лідэрамі рабілі камуністычныя рэжымы легітымнымі ў вачах сусветнай супольнасці.

Больш таго, прарыў у Заходнюю Еўропу быў вельмі дарэчы для савецкага кіраўніцтва, бо эканоміка СССР тады таксама перажывала не лепшыя часы. Магчыма, менавіта прыдуманая нямецкімі сацыял-дэмакратамі «остпалітык» і адцягнула яшчэ на дваццаць гадоў крах савецкай эканамічнай сістэмы.

Магчыма, калі б Захад у сямідзесятыя гады быў больш прынцыповым і маналітным, савецкае кіраўніцтва не асмелілася б уводзіць войскі ў Афганістан, і такім чынам удалося б зберагчы жыцці дзесяткаў тысяч савецкіх салдатаў і мільёнаў афганцаў.

Аналагічная сітуацыя назіраецца і зараз. «Разрадка напружанасці» з беларускім рэжымам, якую ініцыіруюць нямецкія сацыял-дэмакраты, дае шанц на выжыванне абсурднай «луканоміцы» і такім чынам працягвае жыццё сённяшняму рэжыму.

Невыпадкова, відаць, змякчае свае пазіцыі да рэжыму Лукашэнкі і кансультатыўна-наглядальная група АБСЕ ў Мінску, якую ўзначальвае нямецкі дыпламат Ханс Георг Вік. Намеснік пана Віка Ханс Петэр Кляйнэр ужо закінуў пробны каменьчык, заявіўшы ў інтэрв'ю «Інтэрфаксу», што «выбары прэзідэнта Беларусі, аб'яўленыя апазіцыяй на 16 траўня гэтага года, могуць быць не прызнаны легітымнымі міжнароднай супольнасцю».

Такім чынам мінская група АБСЕ фактычна працягвае палітыку нямецкіх сацыял-дэмакратаў па легітымізацыі рэжыму Лукашэнкі. Прычым, зноў, як і больш за дваццаць гадоў таму назад, фактычна ігнаруюцца факты парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Для эканамічных інтарэсаў Германіі і праваднікоў яе палітыкі ў кіраўніцтве кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ, зноў становіцца куды важней стасункі з рэальнай, хоць і дыктатарскай уладай.

Але ж яны забываюць пра іншую рэальнасць. Той жа кандыдат у прэзідэнты Міхаіл Чыгір, а таксама шэраг іншых палітычных зняволеных, сядзяць у зусім не віртуальных турмах. І паблажлівыя адносіны да Лукашэнкі ў такой сітуацыі не што іншае, як здрада. Прычым, не толькі ў адносінах да людзей Беларусі, якія змагаюцца ці проста прытрымліваюцца прынцыпаў дэмакратыі. Гэта здрада і нацыянальным інтарэсам кожнай дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавы, у тым ліку і ФРГ, бо, як вядома, кожны дыктатарскі рэжым нясе пагрозу не толькі свайму народу, але і суседзям. ■

# Палітэмігрант супраць палітвязня

*Пытанне Чыгіру:* Вы лічыце, што маеце маральнае права балатавацца на пасаду прэзідэнта Беларусі пасля таго, як у кастрычніку 96-га, напярэдадні лістападаўскага перавароту, Вы моўчкі сышлі ў адстаўку?

**Юлія Чыгір:** Па-першае, я хачу падкрэсліць, што Міхаіл сышоў не пасля рэферэндуму, а да рэферэндуму. Ёсць вялікая розніца. Калі ён пісаў заяву аб адстаўцы, умовай застацца на пасадзе была адмена рэферэндуму. І ён не ціха сышоў, як тут згадалі, не моўчкі, а са скандалам. І я лічу, і не толькі я лічу так, — ягоная адстаўка была ў далейшым як бы адной з прычынаў, з якой не прызналі рэферэндум еўрапейскія дзяржавы. Гэта быў апошні крок, каб прыпыніць рэферэндум. А што больш мог зрабіць Чыгір у той сітуацыі? Ну, хіба спаліць сябе на плошчы. Большых крокаў ён не бачыў, ён вычарпаў усе магчымасці, працуючы на пасадзе. Ён адзін выступіў на з'ездзе, які быў праведзены за месяц да гэтага, супраць рэферэндуму. Ён адзін не выступаў на загад прэзідэнта з экрана тэлевізара і не агітаваў за рэферэндум.






*Пытанне Пазьняку:* Я бы хотел знать, когда он приедет на Родину и будет нормально, как все политики, вести свои дела здесь, у себя дома, и не прятаться от того же Лукашенко и кого-то еще.

**Зянон Пазьняк:** Я магу вярнуцца ў любы час, калі палічу гэта палітычна неабходным.

*Пытанне абодвум:* Пасля 16 траўня, калі адбудуцца выбары, як яны збіраюцца адхіліць прэзідэнта Лукашэнку ад улады?

**Аляксей Кароль:** Што такое 16 траўня? Безумоўна, правесці выбары паводле канонаў дэмакратыі, паводле канонаў Канстытуцыі 1994 года ўжо, відавочна, не ўдалося. Не ўдалося па той прычыне, што ўлада чыніць шэраг перашкодаў. Шмат выклікаў у КДБ, у МУС, ёсць арышты, каля тысячы чалавек тым ці іншым чынам падвергліся ціску з боку ўладаў.

Механізм перадачы ўлады — і гэта запісана ў прагараме Чыгіра — ён бы на працягу месяца ініцыяваў свабодныя выбары Вярхоўнага Савета. І потым ужо Вярхоўны Савет прымае патрэбны пакет заканадаўчых актаў, прымае патрэбныя рашэнні, і праводзіцца пераразмеркаванне функцыяў улады. Паўнамоцтвы прэзідэнта памяншаюцца, паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета, паўнамоцтвы іншых галінаў улады размяркоўваюцца так, як гэтага патрабуюць дэмакратычныя стасункі.

**Зянон Пазьняк:** Адносна падзеяў пасля 16 траўня. Ёсць некалькі варыянтаў. Самы верагодны варыянт — што выбары будуць забароненыя. У гэтай сітуацыі вельмі істотна, каб выбары былі дакладна паводле закона. Таму што забаронамі выбары не спыняюцца. Тады выбары могуць мець працяг, бо выбары — палітычны працэс. Таму механізм павінен быць толькі законны. Але пасля 20 ліпеня Лукашэнка страчвае законнасць сваёй улады. Пасля 20 ліпеня выбары могуць быць ізноў паўтораны пры любой сітуацыі абвастрэння.

*Пытанне Пазьняку:* Вы рэзка выказваецеся пра злачынствы цяперашняй улады, сцвярджаеце, што вінаватыя будуць адказваць па ўсёй строгасці закона. Але нядаўна, калі пачалася прэзідэнцкая кампанія, ужо паабяцалі лукашэнкаўцам амністыю. Вы не думаеце, што так Вам не павераць ні наменклатура, ні пакрыўджаныя рэжымам людзі, якія чакаюць пакарання сваіх крыўдзіцеляў?

**Зянон Пазьняк:** У пачатку 1997 года я напісаў ліст, які разаслаў усім наменклатурным «вертыкальным» начальнікам у кабінеты. І там было сказана, што тыя кіраўнікі, якія ў гэтай цяжкай сітуацыі — а тады была пагроза незалежнасці — будуць абараняць незалежнасць і суверэнітэт Беларусі, тым людзям будзе гарантаваная пасада і будуць ліквідаваныя дасье. Лукашэнка на кожнага начальніка мае дасье. У тым ліку і на Чыгіра. Так вось, менавіта гэта было сказана, гэта я памятаю, і гэта я буду выконваць. Таму што незалежнасць дзяржавы — вышэй за ўсё.

Тыя злачынствы, якія робіць рэжым, яны зафіксаваныя, яны фіксуюцца кожны дзень, кожны месяц, і адпаведна там, дзе будзе склад злачынства, — тыя справы будуць перададзеныя ў суд.

*Пытанне абодвум:* Ці не распачнеце вы «паляванне на вядзьмарак», калі прыйдзеце да ўлады? І наадварот — ці не застануцца без пакарання тыя, хто таго варты? Ці адбудзецца суд над Лукашэнкам?

**Зянон Пазьняк:** Незалежна ад волі будучага прэзідэнта, гэтае пытанне — пра суд — будзе пастаўленае. Яго паставіць народ, людзі, якія пацярпелі. Вельмі шмат зрабіў парушэнняў і вельмі шмат шкоды нанёс беларускай нацыі і дзяржаве Аляксандр Лукашэнка. Таму можна не сумнявацца, што гэтае пытанне ўзнікне, і хутчэй за ўсё яно дойдзе да суда.

**Юлія Чыгір:** Я пра Лукашэнку скажу, што цалкам падтрымліваю Зянона Станіслававіча ў тым, што ён сказаў, і ўпэўненая, што Лукашэнка павінен адказаць за ўсе злачынствы, як фінансавыя, так і супраць чалавецтва і свайго народа, якія ён здзейсніў. Я ведаю, што Міхаіл Мікалаевіч стаіць на той пазіцыі, што павінен быць прыняты закон аб люстрацыі, і ўсе чыноўнікі, якія заплямілі сябе парушэннем законаў, у выкананні законаў, якія парушаюць правы чалавека, яны будуць прыцягнутыя да адказнасці і адлучаныя ад сваіх працоўных месцаў.

*Пытанне Пазьняку:* Зянон Станіслававіч, я памятаю, што Беларускі Народны Фронт пытанне люстрацыі меў нават у сваёй прагараме ў свой час, калі была яшчэ КПСС. А што цяпер, вы гэтае пытанне апускаеце?

**Зянон Пазьняк:** Не, гэтае пытанне застаецца. Тым больш будзе ўлічаны вопыт Польшчы і Чэхіі. Люстрацыі тычацца толькі тых людзей, якія задзейнічаныя ў сістэме ўлады, якія могуць уплываць на ўладу, выкарыстоўваючы свае ранейшыя сувязі. Вось для чаго робіцца люстрацыі. І толькі тыя людзі будуць падлягаць люстрацыі.

Калі чалавек бярэцца, скажам, у сістэме ўрада загадваць аддзелам ці цэлым кірункам дзейнасці — ці ідэйнай, ці эканамічнай, — то ён павінен здаць пасведчанне, ці не супрацоўнічаў ён з адпаведнымі службамі, так як робіцца ў Польшчы. Калі гэта не будзе зроблена, будзе праверка. Калі праверка выявіць гэтую яго сітуацыю, значыць ён не будзе дапушчаны да працы ў дзяржаўных установах. Улада павінна быць чыстая.

**Аляксей Кароль:** Каманда Чыгіра наогул закон аб люстрацыях не разглядала, і так, як выклала гэта спадарыня Юлія, так яно запісана і ў прагараме. Зноў жа ёсць і гістарычная, і сусветная практыка. Чалавецтва — яно не з'яўляецца палітыкамі, людзі выконваюць загады, і ёсць у гісторыі выпадкі, калі, скажам, той самы паліцэйскі арыштоўваў спачатку байцоў супраціўлення, а потым арыштоўваў калябарантаў. Чыноўнік становіцца палітыкам на вышэйшым узроўні, і тут, на вышэйшым узроўні людзі, павінны быць чыстыя, і за імі не павінен цягнуцца след шчырага ці няшчырага правядзення той палітыкі, якая прывяла да ўзмацнення рэжыму дыктатуры ў Беларусі. Гэта тычыцца вышэйшага чынавенства.

*Пытанне абодвум:* Што за каманды ў кандыдатаў у прэзідэнты?

**Юлія Чыгір:** Наша каманда налічвае больш за дзве тысячы чалавек. Гэта людзі, якія ўваходзяць у ініцыятыўныя групы і ў групы падтрымкі Чыгіра, 40% гэтых людзей раней не ўваходзілі ў ніводную з партыяў, сярод іх ёсць і чыноўнікі, ёсць людзі, якія цяпер працуюць у прамысловасці, многія з іх працуюць у сельскай мясцовасці ва ўладных структурах. Таксама ў нашу каманду ўвайшлі сябры партыяў, якія падтрымалі Міхаіла Мікалаевіча, калі ён выявіў жаданне прымаць удзел у выбарчай кампаніі. Гэта сацыял-дэмакратычная партыя Статкевіча, гэта партыя Шушкевіча, частка Аб'яднанай грамадзянскай партыі і нават частка Беларускага Народнага Фронту.

**Зянон Пазьняк:** Мая каманда спецыялістаў была створаная ў 1994 годзе, яна была ператвораная ў ценявы кабінет Фронту, і гэты ценявы кабінет Фронту існуе цяпер. Гэтыя людзі ўвойдуць у кіраўнічыя структуры і ва ўрад. Акрамя таго, увойдуць дэпутаты апазіцыі Вярхоўнага Савета XII склікання, вядомыя спецыялісты, грамадскія дзеячы, эканамісты, навукоўцы, палітыкі — усе яны кандыдаты ва ўрад, у адміністрацыю, у розныя структуры дзяржавы. Ёсць некалькі кандыдатураў на прэм'ера. Магу толькі сказаць, што прэм'ерам будзе не эканаміст. Скажам, спадар Прымакоў не эканаміст, а вот неяк жа спраўляецца. Таму гэты стэрэатып хутчэй за ўсё мы паламаем, і прэм'ерам будзе іншы, нечаканы чалавек. Цяпер я не магу ў гэтых абставінах яго аб'яўляць, каб не наразіць на непрыемнасці.

*Пытанне абодвум:* Якая мова будзе дзяржаўная, ці будзе вернутая сімволіка? Якім чынам зменіце сімволіку?

**Юлія Чыгір:** У прагараме Чыгіра ёсць раздзелы, якія прадугледжваюць пераход да беларускай мовы. Адзінай дзяржаўнай мовай павінна быць, паводле ягонага разумення, беларуская мова. Ён таксама лічыць, што павінны вярнуцца тыя сімвалы, якія адпавядаюць нашай Беларускай Рэспубліцы. Пасля абрання прэзідэнтам ён прадугледжвае не гвалтоўны пераход да новых сімвалаў, да мовы, не раптоўны, а плаўны... Адразу прызнаецца дзяржаўнай беларуская мова, толькі пераход да яе на поўнае карыстанне прадугледжваецца праз нейкі пэўны час.

**Зянон Пазьняк:** Пытанне аб мове, згодна з законам аб рэферэндуме, не можа ставіцца на рэферэндум. Гэта фундаментальная норма, якую паламаў Лукашэнка. Улічваючы катастрафічныя вынікі яго, Лукашэнка ў гэтай частцы парушэння павінен быць прыцягнуты да адказнасці. А што датычыць вынікаў рэферэндуму, то яны будуць адмененыя. Таму што рэферэндум 1995 года быў незаконны і маніпуляцыйны, з грубымі парушэннямі, з прымяненнем войска ў парламенце супраць дэпутатаў. Таму вынікі яго будуць адмененыя Вярхоўным Саветам і Канстытуцыйным Судом. Яшчэ можна дадаць, што пытанне аб мове ўвогуле недыскусійнае, таму што будзе вернутае дзеянне Канстытуцыі 1994 года, дзе ўсё запісана: расійская мова мае ўжытак як мова афіцыйных зносінаў. ■

**P.S.** У нядзелю адбудзецца заключная частка радыёдэбатаў. НАВІНЫ маюць намер зноў надрукаваць вытрымкі з нашым каментарам.

Падрыхтаваў
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Вирусная атака на администрацию президента

**Иван БАБИЧЕВ**

Компьютерная техника администрации президента подверглась 26 апреля массированной атаке вируса «Чернобыль» или WIN95.CIH, проникающего в компьютерные сети в день очередной годовщины аварии на Чернобыльской АЭС. В результате из строя, по разной информации, было выведено от 15 до 20 компьютеров.

Вирус этот активизируется 26 числа каждого месяца. В результате его атаки жесткие диски компьютеров оказались отформатированы, вся информация на них утеряна безвозвратно. Кроме того, под воздействием вируса после первой перезагрузки компьютер перестает загружаться.

Вирус WIN95.CIH был культивирован в Тайване и распространен автором через Интернет. До того, как было найдено «противоядие», он успел поразить большинство стран Юго-Восточной Азии, а также некоторые европейские страны. В Беларуси из-за слабого развития Сети источником заражения вирусом стал рынок в Ждановичах, где продаются CD с ворованным программным обеспечением и играми.

Кстати, вирус порезвился и в России. В Екатеринбурге, например, «Чернобыль» остановил выход нескольких газет. ■

## Страсбург: Лябедзька абвяргае Канаплёва

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ, Страсбург**

Учора ў Страсбургу дэпутаты Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы абмяркоўвалі беларускае пытанне. Еўрапейцы спрабавалі высветліць, ці больш стала дэмакратыі ў Беларусі ў параўнанні з сітуацыяй 2-гадовай даўнасці, калі тут у апошні раз разглядаліся паводзіны «беларускага дыктатара».

Чарговы экзамен адбыўся на паседжанні палітычнага камітэта, куды для справаздачы былі запрошаныя адразу дзве парламенцкія дэлегацыі з нашай краіны. Нацыянальны сход прадстаўлялі дэпутаты Уладзімір Канаплёў, Мікалай Чаргінец, Леанід Глухоўскі і Мікалай Шпілеўскі. Яны намалявалі даволі прывабную карціну паступовага развіцця дэмакратыі ў Беларусі. Дакладчык Уладзімір Канаплёў, праўда, прызнаў некаторыя цяжкасці — ва ўнутранай сітуацыі, але толькі ў эканоміцы. Што тычыцца палітычнага становішча, то яно ўстойлівае і ўсё больш адпавядае еўрапейскім стандартам, лічыць Канаплёў. У якасці галоўнага доказу было заяўлена тое, што паміж рознымі галінамі ўлады ў Беларусі няма не тое што канфліктаў, а нават бачных супярэчнасцяў.

Апаніруючы бок – дэпутаты ВС 13-га склікання якраз гэты аргумент лічаць мінусам. Анатоль Лябедзька, Сяргей Калякін і Мечыслаў Грыб настойліва даводзілі, што беларускі рэжым усё больш дыстанцыюецца ад сапраўднай дэмакратыі. На думку дакладчыка Анатоля Лябедзькі, Нацыянальны сход – толькі шырма для прыкрыцця рашэнняў, якія ў адзіночку прымае Аляксандр Лукашэнка.

На момант перадачы гэтага рэпартажу са Страсбурга вынік абмеркавання сітуацыі ў Беларусі на Асамблеі Савета Еўропы невядомы. Між тым, прыблізна можна спрагназаваць вынік наступным чынам: кіраўніцтва Савета Еўропы вітае той факт, што абедзве беларускія дэлегацыі сышліся пад адным дахам залы кангрэсаў ПАСЕ. Еўрапейцы спадзяюцца, што гэта дапаможа аднаўленню дыялогу паміж апазіцыяй і ўладай унутры краіны. Што тычыцца стаўлення Еўропы да беларускага рэжыму, пакуль не заўважана ніякіх крокаў на прызнанне рэаліяў пасля 1996 года. Наадварот, афіцыйныя асобы Савета Еўропы падкрэсліваюць сваю незадаволенасць тым, што беларускія ўлады не ідуць на дыялог і агульная сітуацыя пагаршаецца. У прыватнасці, генсакратар ПАСЕ Даніэль Таршыс заявіў у аўторак сябрам беларускай афіцыйнай дэлегацыі, што не бачыць зрухаў у лепшы бок у беларускай сітуацыі. Доказы, якія прадставіў Уладзімір Канаплёў і ягоныя аднадумцы, не ўразілі і новага кіраўніка палітычнага камітэта ПАСЕ Віктара Руфі.

Дарэчы, учора да сям'і цывілізаваных еўрапейскіх народаў далучылася Грузія. Яе афіцыйна прынялі ў Савет Еўропы. За межамі Еўропы застаюцца пакуль Югаславія, Боснія і Герцагавіна, Азербайджан, Арменія, Манака і Беларусь. ■

# Европа и военная машина

## Убоятся ли политики Европы той цены, которую надо платить за создание машины европейской безопасности? Об этом размышляет Иэн Дэйвидсон, являвшийся в свое время главным международным обозревателем газеты *The Financial Times.*

На протяжении многих лет ярко выраженной слабостью Европейского Союза была его неспособность создать общую внешнюю политику и политику безопасности. Натовские бомбардировки Сербии и Косово вновь выдвинули эти проблемы на первый план.

По существу, политику безопасности нельзя создать путем медленных и осторожных переговоров, которые характерны для нормальных процессов в ЕС. Война отличается от экономической интеграции во многом тем, что её нельзя вести коллективно, принимая осторожные законодательно-процессуальные нормы.

У французов нашлось изящное слово для обозначения происходящих в объединенной Европе процессов: *engrenage* (машина) — слово, вызывающее образ человека, попавшего в шестерни. Французы понимают это как процесс постоянного подталкивания чего-либо вперед машинной интеграции.

Разительным примером такой *engrenage* является Экономический и Валютный Союз. Лишь немногие страны-участницы без колебаний приняли бы единую валюту, но они обнаружили, что она является почти неизбежным следствием уже установленного единого рынка.

Во время трехсторонней войны в Боснии некоторые европейские лидеры трубили о том, что это — проблема Европы. Но на практике европейские правительства совершенно определенно не собирались оказаться вовлеченными в войну; наибольшим риском, которому они соглашались подвергнуть свои войска, было сначала осуществление гуманитарной помощи, а затем (после нескольких американских бомбардировок) — миротворческая деятельность.

Дэйтонское соглашение 1995 года восстановило некоторую видимость спокойствия в Боснии. Но предшествующая жестокость этнических чисток в Сербии, Хорватии и Боснии в первой фазе балканской трагедии и трусливое бессилие ЕС оказались настолько шокирующими и позорными для европейцев, что вид президента Слободана Милошевича, начавшего еще более неистовый процесс этнических чисток в Косово (подразумевающий гибель и депортацию десятков или сотен тысяч косовских албанцев), волей-неволей вынудил их на этот раз осуществить более действенную интервенцию.

Сначала европейцы и их американские союзники по НАТО верили или надеялись, что смогут путем переговоров убедить президента Милошевича отступить от политики репрессий и резни в Косово. Но обнаружив, что на Милошевича не действует моральное давление, союзники по НАТО были вынуждены поднять ставки, пустив в ход угрозу применения военной силы. Когда же они поняли, что Милошевич абсолютно глух к их угрозам, НАТО вновь подняло ставки, начав действительно бомбить военные объекты в Югославии. Эта бомбардировка длится уже более месяца, но до сих пор нет никаких свидетельств тому, что союзники по НАТО преуспели в деле подчинения Милошевича своей воле.



Именно тут их поймал процесс *engrenage:*

**Во-первых**, ставки оказались поднятыми гораздо выше, чем кто-либо полагал шесть месяцев тому назад. На данный момент кажется маловероятным, чтобы НАТО могло рассчитывать выиграть эту войну характеров только путем продолжения бомбардировок. А поскольку бомбардировки, скорее всего, приведут к увеличению количества жертв среди мирного населения, то даже простое продолжение бомбардировок может оказаться невозможным. Тем не менее, если бы НАТО отказалось от борьбы и оставило бы Милошевичу поле битвы, то последствия такого поражения были бы ужасающими для альянса НАТО, для Соединенных Штатов и особенно для Европейского Союза. Трудно поверить в то, что кто-либо из союзников готов смириться с поражением такого рода.

**Во-вторых**, если поражение неприемлемо, то союзники по НАТО могут быть вынуждены поднять ставки еще выше. С самого начала они снова и снова (неразумно) повторяли, что никогда не пошлют наземные войска. Быть может, это было направлено на успокоение их собственных избирателей, но в действительности такие заявления только поощряли Милошевича. Поэтому может придти время, когда единственным выходом избежать поражения НАТО будет отправка войск.

Однако совершенно маловероятно, чтобы все члены НАТО согласились на такое изменение политики, и еще более маловероятно, чтобы все оказались готовыми предоставить национальный воинский контингент. Иными словами, единство НАТО и, возможно, его будущее могло бы оказаться под угрозой как из-за решения посылать войска, так и из-за решения их не посылать.

**Третьей** частью балканской *engrenage* является то, что стратегические цели НАТО начали меняться до неузнаваемости. До начала бомбардировок НАТО намеревалось оказать посредничество в новом соглашении по Косово, согласно которому Милошевич прекратил бы этнические чистки, а косовары получили бы ограниченную автономию — но не независимость — в пределах Югославии. Сейчас, как кажется, возможность такого компромисса исключена из-за жестокости репрессий Милошевича по отношению к этническим албанцам. Если бы он даже и подписал соглашение, трудно поверить в то, что он бы его придерживался. В результате, намерения Запада сместились в сторону создания некоторого протектората в Косово, весьма независимого от Милошевича.

Трудно переоценить, что сейчас поставили на карту западные союзники, не говоря уж об интересах жителей Косово. Если европейцы отступят, убоявшись цены, которую нужно платить за победу, то они предоставят разительное доказательство своего нежелания создать европейскую машину безопасности: систематические препятствия, вкупе с малодушием, окажутся сильнее, чем *engrenage*. Если европейцы помогут поражению Милошевича, то они продвинутся к организации безопасной внешней политики гораздо дальше, чем предполагали или желали. ■

*© Project Syndicate*

# Лекцыя на дадзеную тэму

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Днямі ў Мінску пабываў з візітам вядомы амерыканец Пітэр Гэлбройт — былы пасол ЗША ў Харватыі, якога прадстаўнікі амерыканскай амбасады ў Мінску назвалі адным з архітэктараў мірнага пагаднення паміж сербамі і харватамі. Спадар Гэлбройт выступіў у беларускай сталіцы з публічнай лекцыяй на тэму «Гісторыя і шляхі вырашэння Косаўскага канфлікту». Галоўны рэцэпт, які прапануе амерыканскі дыпламат, такі: каб вырашыць праблему Косава, не абысціся без уводу наземных узброеных сілаў NATO. Падрабязнасці — у аказах сп.Гэлбройта на пытанні аўдыторыі і журналістаў.

**— Бамбардзіроўкі Югаславіі не даюць таго выніку, на які разлічвала NATO. Што далей?**

— Перад краінамі Захаду паўстае задача вярнуць бежанцаў дадому, але дзеля гэтага давядзецца выкарыстаць большую сілу ў вырашэнні праблемы Югаславіі. Даводзіцца прызнаць, што ўдары з паветра не далі належнага выніку, і прыйдзецца ўводзіць наземныя сілы.

**— Калі ваенныя дзеянні не спыняцца, ці не прывядзе гэта да трэцяй сусветнай вайны?**

— Не думаю. Давайце будзем рэалістамі. Як гэта можа прывесці да трэцяй сусветнай вайны? Расія выпусціць па Захадзе і Амерыцы свае ядзерныя ракеты? Гэта немагчыма, як і ўвогуле немагчымае ўмяшальніцтва нейкага трэцяга боку.

**— Як адбіваецца канфлікт на дачыненнях NATO і Расіі?**

— Я перакананы, што ў ЗША і Еўропы, з аднаго боку, і ў Расіі, з другога боку, шмат агульных інтарэсаў, якія не дадуць перамагчы негатыўным эмоцыям. Паміж намі сапраўды ёсць разыходжанні, але агульнага больш. Расія за дэмакратыю, за рынкавую эканоміку, Расія пагаджаецца і з тым, што касавары павінны мець сваю аўтаномію, а сербы мусяць спыніць этнічныя чысткі, гэтую разнавіднасць фашызму, недапушчальную ў Еўропе. Паўтараю, Расія згодная з такой пазіцыяй, у нас ёсць разыходжанні толькі ў тактыцы. Асабіста я паважаю гэтую пазіцыю.

**— Як вы ставіцеся да далучэння Югаславіі да Саюза Расіі і Беларусі?**

— Адказ просты. Не думаю, што Расія зацікаўленая ў такім саюзе. Расія — сур'ёзная краіна. Што да Беларусі — вам адсюль лепш бачна. Вы вольныя выбіраць: мець хаўрус з кім заўгодна, у тым ліку і калі гэта краіна, што вае з сваімі ж жыхарамі, дзе ўсё жыццё кантралюецца тайнай паліцыяй, дзе самая высокая ў Еўропе інфляцыя, — або аб'ядноўвацца з астатняй Еўропай.

**— Ці не павінны кіраўнікі NATO паўстаць перад міжнародным трыбуналам, як і тыя югаслаўскія палітыкі, што вінаватыя ў этнічных чыстках?**

— Зараз міжнародны трыбунал разглядае дзейнасць прэзідэнта Мілошавіча, як раней разгледзеў дзейнасць Караджыча і прызнаў яго вінаватым. Думаю, віна Мілошавіча таксама будзе даказаная. Што тычыцца юрыдычнай адказнасці кіраўнікоў NATO — чаму не? Яны таксама падсудныя. Калі міжнародны трыбунал вырашыць, што такі працэс патрэбны — ён адбудзецца.

**— Вы — спецыяліст па Югаславіі. Ці кансультаваліся з вамі перад пачаткам бамбардзіровак?**

— Я ўжо другі год не з'яўляюся паслом, чытаю лекцыі ў розных універсітэтах ЗША, таму непасрэдных кансультацыяў са мной быць не магло. Але сваю пазіцыю па Косаўскім канфлікце я неаднаразова выказваў публічна. Зараз я не выступаю як афіцыйная асоба, я заяўляю ад сябе: у Косаве зроблена шмат вартых жалю памылак, але яшчэ большай памылкай будзе не мяняць нашую тактыку. Безумоўна, этнічныя чысткі павяліччыліся пасля таго, як пачаліся бамбардзіроўкі Югаславіі. І безумоўна, што вызваленчае войска Косава ў многім спраўакавала гэтыя чысткі. Таму спыніць іх можа толькі ўвод наземных войскаў, якія б развялі ўдзельнікаў гэтага канфлікту. ■

## ПЫТАННЕ — АДКАЗ

**Ці ёсць у аўтаномнай Рэспубліцы Косава свой нацыянальны сцяг і як косаўцы змагаюцца: са сцягам ці без?**

**С.БАРЫСАЎ, Мінск**

Косаўцы, як і любы іншы народ, змагаюцца за незалежнасць пад сваім сцягам. Як нам удалося даведацца, косаўскі сцяг таксама існуе, ён вельмі падобны да албанскага: пасярэдзіне чырвонага поля — двухгаловы чорны арол. Аднак, у адрозненне ад албанскага, у левым верхнім куце косаўскага сцяга змяшчаецца зорка — зусім, як на сцягу СССР, аднак большага памеру. ■



● Дзяржаўны сцяг Албаніі.

● Сцяг непрызнанай Рэспублікі Косава.

Выканаўчая рада патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў» глыбока смуткуе з выпадку заўчаснай смерці падпалкоўніка

**Уладзіміра Мікалаевіча**

**ШАЎЧЭНКІ-БАЛСУНОЎСКАГА**

і выказвае родным і блізкім нябожчыка свае самыя шчырыя спачуванні

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 538 Нумар падпісаны ў друк 27/04/99 (15:00) Наклад — 17.230